Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

11 сакавіка 1998 года
СЕРАДА
№ 19 (99)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

### ІВАЦЭВІЧЫ

## Еўрарамонт. Каб яшчэ і жыццё еўрапейскае!

Яшчэ адзін магазін спажывецкай кааперацыі ў Івацэвічах (№ 10) гасцінна расчыніў дзверы пасля непрацяглага рамонту. Зайшла туды сівая бабуля і назад адступіла: зіхаціць усё ў гандлёвай зале ад чысціні, пластыкавых белых сценаў, вітрынаў, перагружаных таварамі. Прадаўшчыцы стаяць у новенькай шыкоўнай уніформе...

— Не бойся, бабуля! Еўрарамонт, прывыкай! — гукнуў брытагаловы здаравяк, накіроўваючыся да вінагарэлачнага аддзела.

Праз некаторы час яны выйшлі з магазіна: здаравяк — з бутэлькай, бабуля — з буханкай хлеба.

— Чаго так сціпла? — зноў зачапіў бабулю здаравяк.

Тая ўжо, што называецца, ачомалася ад здзіўлення і адказала не без гумару:

— Каб да гэтага еўрарамонту ды яшчэ мне еўрапейскую пенсію і цэны — дзве бутэлькі гарэлкі купіла б і да 200 гадоў жыла б!

Сапраўды, жыццё не перастае здзіўляць нас сваімі кантрастамі. Здаецца, народ ледзь-ледзь канцы з канцамі зводзіць, на хлебе—малацэ перабіваецца, а спажывецкая кааперацыя тлусцее. Цэны растуць штодзённа, нацэнкі таксама, еўрарамонт праводзіцца. Каб адрамантаваць гэты ж магазін № 10 спатрэбілася некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў. З чыёй кішэні гэтыя грошы? Мо бабуля ведае?

## Рашаць самім жыхарам

Гэтае пытанне сёння задаюць і гараджане, і жыхары раёна. Бо, акрамя млына ў хлебапрыёмным прадпрыемстве, паявіўся новы — у Няхачаве, недалёка ад магазіна па другі бок шашы. А размяшчаецца гэты млын у былым складскім памяшканні ААТ "Косаўскае мэблевае вытворчае аб'яднанне". Арандуе яго адна з камерцыйных фірм з Мінска.

Млын аснашчаны новым сучасным абсталяваннем, затраты на якое склалі звыш трох мільярдаў рублёў. 15 чалавек працуюць на новай вытворчасці.

Тыя жыхары, што карысталіся паслугамі новага млына, сцвярджаюць, што якасць размолу выдатная.

А які млын выбіраць гараджанам ці вяскоўцам — рашаць ім самім.

## Хлебаробы выйшлі ў поле

Ранняя вясна паклікала хлебаробаў у поле. У гаспадарках раёна ідзе ў асноўным вывазка арганікі. Так, у саўгасе "Перамога" яе вывезена звыш васьмі тысяч тон, у калгасе "Даманава" — каля сямі тысяч тон. Распачалі вывазку кампостаў і ў калгасе "Пагор'е".

Культывацыя і ворыва вядуцца пакуль што выбарачна.





### БАРАНОВИЧИ

## И в магазин ходить не надо

Милиционеры Игорь Заболотный и Сергей Жилинский производили плановую проверку проходной хлебозавода № 1. На выбор проверили четырех кондитеров и одного рабочего, выходивших на улицу по своим делам. И у всех оказалось по одному килограмму припрятанного сахара. Оформив задержания, эти же работники охраны подъехали к гормолокозаводу и сразу же наткнулись у забора на некоего К., укравшего килограмм масла.

Милиционеры Андрей Шатков и Адам Завистович застали водителя молокозавода, сливавшего молоко из цистерны в свою посуду.

Ну, прямо как в магазине пользуются продукцией предприятий не некоторые, а очень многие их работники, только за бесплатно.

## БПСМ богатеет

за счет финансовых вливаний из городского бюджета. На 1998 год этой, неожиданно появившейся и растущей, как на дрожжах, молодежной организации выделено 400 миллионов рублей. Инвалиды, одинокие престарелые и дети-сироты, видимо, обойдутся гуманитарной помощью из-за границы, если таковая будет поступать регулярно.

## Где лучше перекусить?

На рыночной площади и перроне станции "Барановичи—Полесские" давно появились "передвижные" закусочные. Предприимчивые торговцы предлагают людям из-под полы, конечно, краюху хлеба, черствую булочку с кусочком вареного мяса, колбасы, яйцом, не всегда первой свежести и сомнительного происхождения, но... по ценам ниже государственных.

Проголодавшийся гость Барановичей или любитель выпить на ходу рад и этому "бутерброду". Арендное предприятие "Орбита" (просто становая с кулинарным отделом) решило поспорить с этими передвижными буфетами и скоро откроет продажу компактных обедов по типу "Макдональдса", но за очень умеренную цену.

Вкусно, дешево и, главное, безопасно для желудка.

## Недосмотрели

На стройке инструкции по технике безопасности разработаны так, что, выполняя их, кажется рабочие на сто процентов защищены от несчастных случаев. Но в строительном управлении № 111 Барановичского треста № 25 что-нибудь да просмотрят. Не один раз на объектах управления страдают люди по халатности руководства. Недавно погиб 27-летний рабочий, упав в неогражденную лифтовую шахту. Семье его выплачена помощь в сумме 8 годовых заработных плат. А положено десять. Даже в этом трагическом событии руководство СУ-111 осталось верным своим "принципам" неуважения работников.

## 50 лет в победителях

Коллектив строительно-монтажного поезда № 760 Барановичского отделения железной дороги отметил свой полувековой юбилей. Эта организация ведет все строительные объекты в отделении: возводит дома, вокзалы, промышленные здания. В этом году готовит к здаче в эксплуатацию единственную в Беларуси базу капитального ремонта электропоездов —, по сути, мощный завод, по улице Брестской заканчивает девятиэтажный дом для коллектива локомотивного депо.

Начальник поезда Виктор Николаевич Чалей рассказывает, что начало этой организации было положено в марте 1948 года. Прорабский участок "Дорстроя" постепенно превратился в мощную строительную организацию и всегда коллектив с честью выходил из самых трудных ситуаций. Не снижались темпы в пресловутые годы перестройки.

### БЯРОЗА

## Ці ўзгадаюць пра нас нашчадкі?

Будуецца, прыгажэе Бяроза. Шмат сродкаў выдаткоўваецца на добраўпарадкаванне. Праўда, да былога кляштара картэзіянцаў (на здымку ўнізе) чарга яшчэ не дайшла. Тут не толькі трэба навесці парадак, але ж і падумаць аб рэстаўрацыі гэтага гістарычнага помніка.

Некалі дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі 12-га склікання І. Данілевіч, дырэктар аграфірмы "Малеч", у запале пасля перамогі на выбарах граізўся, што, магчыма, зоймецца рэканструкцыяй кляштару. Ішоў час, а абяцанні, як кажуць, павіслі ў паветры.

Новы касцёл у Бярозе ўсё ж пабудавалі, але ж у другім канцы горада. Каб аднавіць той што некалі быў у кляштары, спатрэбілася б намнога больш грошай. Дарэчы, рэстаўрацыя — рэч даволі дарагая.

З кляштарам звязаны даволі значны перыяд гісторыі былога мястэчка (яго ж ранейшая назва Бяроза-Картузская).

Руйнаванне яго, што пачалося амаль адразу пасля таго, як нашы землі патрапілі ў Расійскую імперыю больш як 200 гадоў таму, працягваецца і сёння. А тэрыторыя кляштара і яго ваколіцы ператвораны ў сметнік.

Вясною мінулага года сябры грамадскага аб'яднання "Бяроза-Картузская" імя Казіміра Сапегі і суполкі БНФ "Адраджэнне" паспрабавалі хоць трохі прыбраць унутры кляштара, правялі два суботнікі. Але навесці парадак да канца не змаглі. А праз пару месяцаў ужо цяжка было пазнаць, што тут нешта рабілася. Вось так у нас "дбаюць" пра захаванне помнікаў сівой даўніны.

Некаторыя з тых, каго запрашалі на суботнік, казалі: "А чаго мы, праваслаўныя, будзем прыбіраць каталіцкі кляштар?" Іх можна зразумець, бо беларусаў далучалі то да палякаў, то да расейцаў, і гэта, вядома, бясследна не прайшло. Але ж тыя старажытныя будынкі, помнікі — агульная наша гісторыя і пра яе трэба клапаціцца і яе захоўваць усім — у тым ліку і людзям рознага веравызнання. Мне, думаецца, гэта не перашкода і бярозаўцам, каб распачатую работу па добраўпарадкаванні каталіцкага кляштара давесці да канца, а потым стукацца ва ўсе дзверы (і дзяржаўныя, і камерцыйныя), каб слова рэстаўрацыя было не толькі яшчэ раз пачута, але ж і асэнсавана. Бо нашчадкі не даруюць нам абыякавасці і нашай бяздзейнасці.



## Вам патрэбны кантактныя лінзы

Многім жыхарам нашага рэгіёну вядома, што ў Бярозе працуе кабінет кантактнай карэкцыі зроку. За тры гады працы кабінета многія людзі Бярозы, Івацэвіч, Белаазёрска, маючы праблемы з вастрынёй зроку, адчулі на сабе выгоды і зручнасці ў нашэнні кантактных лінзаў.

Мяккія кантактныя лінзы, вырабляемыя з пластычных матэрыялаў, з'яўляюцца найбольш дасканалым метадам карэкцыі блізарукасці, далёкавочнасці, астыгматызму. Іх накладваюць непасрэдна на пярэдні аддзел вочнага яблыка. Іх можна насіць бесперапынна ад 8 гадзінаў да некалькіх сутак у залежнасці ад тыпу лінзаў.

Кантактныя лінзы дазваляюць дамагчыся прыкметнага паляпшэння вастрыні зроку ў параўнанні з акулярамі ў людзей з высокай ступенню блізарукасці, астыгматызмам, а таксама з вялікай розніцай у аптычных дадзеных правага і левага вока. Спецыялісты адзначаюць, што працяглае нашэнне кантактных лінзаў запавольвае развіццё блізарукасці. Вельмі даспадобы лінзы і спартсменам з паталогіяй аптычнай сістэмы вачэй.

Больш падрабязную інфармацыю пра мяккія кантактныя лінзы можна атрымаць у акуліста ў кабінеце кантактнай карэкцыі зроку па адрасе: г. Бяроза, вул. Леніна, 111 у сераду з 17 да 19 гадзінаў і ў суботу з 9 да 11 гадзінаў альбо ў гэты ж час па тэлефоне 2-58-86. Для азнаямлення з лінзамі магчыма пробнае нашэнне іх у часы працы кабінета.

● ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ТУПІК?

# Новая тарифная сетка не решает ни одной из проблем организации зарплаты

В Беларуси введена новая Единая тарифная сетка работников. Ее особенностью и отличием от предыдущей является то, что почти вдвое оказались ужаты тарифные коэффициенты. Если раньше разница коэффициентов между 1-м и 28-м разрядом составляла 11,25 раза, то сейчас – только 6,48. То есть, просматривается тенденция не столько повысить заработную плату для всех, сколько ограничить ее рост для категорий работников, которые считаются высокооплачиваемыми.

Анализ введения новой тарифной сетки показывает, что ни одной кардинальной проблемы организации заработной платы она не решает. Например, во второй половине 1997 года три четверти населения республики имели среднемесячные доходы, не превышавшие минимальный потребительский бюджет, а каждый третий житель Беларуси находился за чертой бедности. А что мы имеем сейчас? В соответствии с новой тарифной сеткой, минимальный потребительский бюджет будет гарантировать ставка 20-го разряда, а черта бедности будет преодолена только после 12-го разряда. Можно ли вообще это называть повышением заработной платы?

Во второй половине 1997 года белорусские власти и профсоюзы несколько раз объявляли о предстоящей реформе заработной платы, главным содержанием которой должно было стать установление ставки 1-го разряда, равной минимальному потребительскому бюджету (МПБ). Но почему-то при этом Министерство труда настаивало на размере ставки 1-го разряда только в размере 550 тысяч рублей, а профсоюзы – 690 тысяч рублей. Такой подход был явно половинчатым и лишь предварительным шагом к решению поставленной задачи. Ведь на сегодняшний день минимальный потребительский бюджет в Беларуси равен 2 миллионам 300 тысячам рублей. Но даже эти параметры не были выдержаны; минимальная заработная плата с 1 января повышена только до 250 тысяч рублей.

Существовала надежда, что повышение «минималки» до 250 тысяч рублей, а ставки 1-го разряда – до 500 тысяч рублей едва ли не в два раза повысит размер среднемесячной заработной платы. Тем более, что, согласно официальной статистике, в прошлом году ВВП увеличился на 10 процентов. А промышленное производство и того больше – на 17 процентов. Однако, по оценке ФПБ, реальный прирост ВВП в прошлом году составил не 10 процентов, а только 2,3 процента, остальные же 7,7 процента – результат инфляции. В этих условиях средний заработок может возрасти в номинале только на 22—25 процентов. В реальном исчислении— хорошо бы, если бы хотя остался на прежнем уровне. Ведь рост потребительских цен за январь 1998 года составил 3,9 процента.

В соответствии с официальными данными, в 1997 году ВВП вырос на 10 процентов. Значит, должен был увеличиться в объеме и продукт, подлежащий распределению через заработную плату. Однако почему-то доля продукта, направленного в сферу распределения по труду, не только не увеличилась, но и сократилась на 4 процента. Где гарантия, что такое же не случится и в текущем году? Тем более, что прединфарктное состояние белорусской экономики усугубляет финансовый кризис субъектов хозяйствования. На 1 январпя 1998 года их просроченная дебиторская задолженность составила 41,7 триллиона рублей, кредиторская – 47,2 триллиона. Более 80 процентов промышленных предприятий республики не в состоянии оплатить просроченные долги и являются потенциальными банкротами.

Обращает на себя внимание и еще одно важное обстоятельство, связанное с повышением заработной платы. В прошлом году по причине низкой зарплаты бюджетников администрация организаций и учреждений получила разрешение устанавливать фиксированные доплаты к основным окладам. Сейчас похоже, что эти доплаты просто приплюсуют к основным окладам. Такая манипуляция позволит официальной пропаганде твердить об увеличении заработной платы в стране, реальный же ее размер останется прежним.

Удивительно, что минимальная заработная плата официально повышена с 1 января, уже разработана и обнародована новая Единая тарифная сетка, а зарплату бюджетники за январь получили, исходя из прошлогодних окладов. Одно из двух: либо в государственном бюджете нет денег, либо власти не хотят спешить с повышением заработной платы де-факто. А, возможно, и то, и другое вместе. Неслучайно в начале 1998 года была сделана попытка ввести для граждан двойное налогообложение.

Введение новой тарифной сетки и повышение минимальной заработной платы никак не влияют на решение и других проблем, накопившихся в системе оплаты труда. Например, на проблему задолженности по зарплате. На конец января этот долг достиг 953,6 миллиарда рублей. Сотни тысяч граждан вступили в новый год, не получив заработанные деньги. Главная тяжесть задолженности лежит на плечах колхозников и работников совхозов: долг перед ними составляет 65 процентов от общей суммы.

У большинства работающих заработная плата остается чрезмерно низкой. Работники 1—12 разрядов получают в месяц суммы, эквивалентные 12—32 долларам. Как можно прожить на такие деньги, если цены в стране если не мировые, то близкие к ним?! По-прежнему не достигает размера минимального потребительского бюджета заработная плата в сельском хозяйстве (по итогам за декабрь она составляла 69 процентов от МПБ), в сфере социального обеспечения (67,6), в образовании (98,7 процента), культуре (85,2) и искусстве (84,8 процента). Сохраняется тенденция к увеличению разрыва между уровнями оплаты труда в социально-культурных отраслях и промышленности. Так, если в 1996 году уровень средней зарплаты в здравоохранении был равен 81,1 процента от средней зарплаты в промышленности, то в 1997 году он снизился до 70,6 процентов. В сфере культуры и спорта – соответственно с 79,1 до 71,8 процента; в социальном обеспечении – с 49,2 до 45,9; в образовании – с 64,9 до 57,9; в науке и научном обслуживании – с 98,8 до 93,8 процентов.

Нельзя сбрасывать со счетов и ожидаемую инфляцию, которая может свести к нулю номинальное повышение заработной платы. Запас инфляции сегодня настолько велик (огромный дефицит государственного бюджета, повышение цен на промышленную продукцию в 1997 году на 90 процентов, предстоящая эмиссия необеспеченных денег и т. д.), что удержать цены не помогут никакие административные меры.

*В. КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор. БелаПАН.*

☺ З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА

# Для дома, для семьи, для души...



*Маскарад, ах маскарад! (в. Любішчыцы Івацэвіцкага раёна).*

☺ ВЕЛИКИЙ ПОСТ

## О причастии Св. Христовых тайн во время поста

Во время Великого поста христиане обязательно должны стремиться исповедоваться и причаститься на первой, третьей (Крестопоклонной) и последней неделях, чтобы встречать Пасху Христову с духовным обновлением.

По понедельникам, вторникам и четвергам Св. Четыредесятницы литургии не положено, в среду и пятницу совершается литургия Преждеосвященных Даров.

Начало Литургии Преждеосвященных Даров идет от первых веков христианства. Первые христиане очень часто причащались Св. Христовых Тайн, некоторые даже и в будничные дни. Между тем было признано неудобным в дни строгого поста, как дни скорби и сокрушения о грехах, совершать полную литургию, которая есть самая торжественная церковная служба. Для этого и была введена в службы Великого поста литургия Преждеосвященных Даров.

☺ ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

## Котлеты рыбные

*1 кг хека, трески или любой другой рыбы,*
*2 головки репчатого лука, 150 г булки,*
*2—3 столовые ложки растительного масла, соль, сахар, черный молотый перец, 2 столовые ложки муки, растительное масло для жаренья.*

Рыбу очистить, вымыть, отделить филе от костей и кожи. Мякоть пропустить через мясорубку вместе с репчатым луком, размоченной и отжатой булкой. Массу приправить солью, молотым перцем, сахаром, перемешать. Сформовать котлеты, обвалять их в муке, обжарить в растительном масле, чтобы схватилась золотистая корочка.

Кожу и кости залить холодной водой, сварить бульон и процедить. Процеженным горячим бульоном залить котлеты в глубокой сковороде или чугунном латке. Бульон должен лишь покрывать котлеты, посуду прикрыть крышкой и поставить в духовку. Через 20 мин. блюдо готово. Рыбные котлеты, приготовленные на пару, также вкусны.

Подавать со свежими, солеными, квашенными овощами, картофелем, брусникой, зеленью.

☺ ИНТЕРЕСНО ЗНАТЬ

## Брак — дело молодых

По-прежнему вступают в брак люди молодые. Средний возраст наших невест — 22,5-22,8 года, женихов — 24. К слову, еще в 90-м году создавали семьи юноши и девушки более юные.

Если верить статистике, многие супруги проживают в горе и в радости лет 5-10, а потом решают радоваться жизни или горевать по отдельности. Основная часть разводов в Беларуси приходится на браки длительностью от 5 до 20 лет.

Разводов, к сожалению, с каждым годом становится в республике все больше и больше. Например, если в 1996 году развестись изъявили желание более 43 тысяч супружеских пар, то в 1997 — уже более 47 тысяч. Правда, в то же время в прошлом году почти на 12 тысяч молодых людей больше вступили в брак, чем в 1996 году. При этом специалисты говорят, что следует учитывать и тот факт, что сегодня молодежь предпочитает официальным бракам сводный гражданский союз. А статистикой гражданских браков, как известно, в республике никто не занимается.

Павторно связать себя узами Гименея решаются женщины, в среднем, в 35-36 лет. Мужчины отваживаются на второй брак в 38 лет.

☺ КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА

**Огурцы подкармливают** после появления 1-2 настоящих листьев, а помидоры — когда завяжутся первые плоды на первой самой ранней кисти. Ранняя подкормка помидоров вызывает нежелательный буйный рост ботвы. Второй раз овощи подкамливают через 10-15 дней. Еще через 1-2 недели питание им можно давать в третий раз.

☺ УЛЫБНИТЕСЬ

## Шуточное желание

Если б милые девицы
Так могли летать, как птицы,
И садились на сучках, —
Я желал бы быть сучочком,
Чтобы тысячам девочкам,
На моих сидеть ветвях.

Пусть сидели бы и пели,
Вили гнезда и свистели,
Выводили и птенцов,
Никогда б я не сгибался, —
Вечно ими любовался,
Был счастливей всех сучков.

*Г. Р. ДЕРЖАВИН. 1804 г.*

